**№ 76 (3919)**

30 верасня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**БЛІЦ**

*Гадзіна ікс набліжаецца. Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына ўжо агучыла, што прэзідэнцкія выбары павінны адбыцца не пазней 15 лістапада наступнага года. Але апазіцыя галоўнае пытанне на гэтую кампанію так і не вырашыла.*

*Таму "Народная Воля" адкрытым тэкстам запыталася ў палітычных лідараў:*

# Што перашкаджае апазіцыі абраць адзінага кандыдата?

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

— Праблема не ў адзіным кандыдаце, а ў свабодных і сумленных выбарах. Пра гэта трэба гаварыць. Калі няма падліку галасоў, калі ідзе фальсіфікацыя вынікаў, то колькі будзе кандыдатаў — пяць ці дзесяць — абсалютна не важна. Застанецца той, хто сам сябе прызначыць.

У 2010 годзе не было адзінага і на плошчу выйшла народу нават больш, чым у папярэднія выбары. Таму мабілізацыя можа быць не толькі за нейкую асобу, але за перамены ці супраць фальсіфікацый. Адзіны кандыдат патрэбны толькі дзеля таго, каб улада ў выніку адсутнасці яго не прызначыла больш слабых ці лепш кантралюемых кандыдатаў. Да сярэдзіны кастрычніка стане зразумела, будзе кандыдат абраны на Кангрэсе ці будуць іншыя сцэнарыі.

**Сяргей КАЛЯКІН, старшыня Партыі левых "Справядлівы свет":**

— Я асабіста лічу, што яшчэ рана гэта рабіць. Да таго ж гэта сёння не з'яўляецца важнейшай задачай для дэмакратычнай апазіцыі. Больш важнай з'яўляецца задача павелічэння колькасці грамадзян, якія будуць уцягнуты ў палітычны працэс і стануць прыхільнікамі той альтэрнатывы, якую прапануе апазіцыя ў развіцці Беларусі. Персона, якая пойдзе на выбары і будзе атаясамліваць тыя ідэі, другасная. Працэс узгаднення кандыдатуры адзінага кандыдата ідзе, вядуцца размовы аб правядзенні Кангрэса, узгадняюцца пытанні па працэдуры вылучэння кандыдата. Але гэта не галоўнае пытанне для людзей, якія сёння выступаюць за дэмакратычныя перамены ў краіне. Не думаю, што праблема ў тым, каб не было, напрыклад, дзесяці кандыдатаў. Дай Бог, каб знайшоўся адзін. Размова ідзе не пра тых, якія жадаюць, але нічога не могуць, а пра сур'ёзных асоб. А такіх адзінкі. Праблема ў тым, хто гэтага чалавека будзе падтрымліваць і з чым ён пойдзе да людзей.

**Сяргей ВАЗНЯК, адзін з кіраўнікоў кампаніі "Гавары праўду!":**

— Зараз перашкаджаюць розныя падыходы да бачання парадку абрання дэлегатаў Кангрэса. Напрыклад, частка ўдзельнікаў перамоў "сямёркі" лічыць, што дэлегатаў трэба выбіраць на раённых сходах, як гэта было ў 2005 годзе. Мы лічым, што гэта не самы лепшы варыянт, хаця мы на яго пагаджаемся, паколькі ёсць такое агульнае меркаванне. Мы за тое, каб дэлегата вылучалі шляхам збору подпісаў. Калі, напрыклад, чалавек не сябра якой-небудзь партыі, але можа сабраць сам за сябе подпісы і прынесці іх у раённы камітэт, тады ён можа стаць дэлегатам Кангрэса. Логіка простая: калі ён за сябе сабраў подпісы, то збярэ іх і за адзінага кандыдата. Мы можам стварыць Кангрэс з адных заслужаных VIP-персон, але яны ж не будуць збіраць тыя 100 тысяч подпісаў. Пакуль не можам дамовіцца па гэтым пытанні.

**Зміцер ДАШКЕВІЧ, сустаршыня "Маладога фронту" (зарэгістраваны ў Чэхіі):**

— Перашкаджае адсутнасць жадання перамагаць. Чаму? Ну, нехта стаміўся. А хто не стаміўся б за 20 гадоў? Нехта ўжо прызвычаіўся да свайго становішча і нічога не хоча мяняць. А раптам адбудуцца змены і давядзецца змагацца за нейкую пасаду? Не факт, што калі давядзецца змагацца з тым жа Макеем, то атрымаецца выйграць у яго. Да таго ж няпростая геапалітычная абстаноўка. Стаўленне Захаду да Беларусі ў гэтай сітуацыі такое: маўляў, Расія значна горшая, і цяпер добра, што Беларусь хаця б больш-менш трымае нейтралітэт. Усё гэта ў комплексе і не спрыяе жаданню перамагаць.

**ПАДЛІЧЫЛІ...**

## Буйна праштрафіліся

За год па адміністрацыйных справах беларусы заплацілі штрафаў на 23 мільёны долараў. Гэтая сума параўнальная з выручкай ад экспарту беларускіх тавараў у Таджыкістан.

Паводле інфармацыі Вярхоўнага суда, найбольш спраў — гэта парушэнні правілаў дарожнага руху, па якіх рашэнні прымае ДАІ. У судах жа найчасцей караюць грамадзян за з'яўленне ў грамадскіх месцах у нецвярозым стане, дробнае хуліганства і нанясенне лёгкіх цялесных пашкоджанняў.

**ПА ЧУТКАХ І...**

## Ляцяць вуткі...

*Адміністрацыя Мінскага аўтамабільнага завода абвяргае інфармацыю, якая днямі з'явілася ў інтэрнэце, аб тым, што рабочых перавялі на трохдзёнку. Праўда, намеснік дырэктара па ідэалогіі* ***Леанід АЎЧЫНКА,*** *прызнаў, што скарацілася колькасць замоў на прадукцыю завода. Таму пятніцу прыйшлося рабіць дадатковым выхадным днём.*

*— Усё, пра што пішуць у інтэрнэце, недакладная інфармацыя,* — сказаў спадар Аўчынка "Народнай Волі". *— Гэта звычайная вутка. Хто і чаму яе запусціў, я не ведаю. Мы працуем столькі, колькі атрымліваем замоў, але тры дні яшчэ ніколі не працавалі. А вось пятніцу сапраўды зрабілі выхадным днём, бо спраўляемся за чатыры дні. Пакуль ёсць блытаніна з замовамі, але гэта часовая з'ява. Ёсць дагаворы з Туркменіяй, з Манголіяй. Вось у Польшчы будуем зборачны цэх. Колькі выпускаем — столькі і прадаём. Ва ўсялякім разе на склад больш не працуем. Праўда! Усё паціху распрадалі.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

**АБСУРД!**

## Дзе знайсці вуліцу Маркса Карла Фрыдрыхавіча?

*Беларускія ўлады адмовілі ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання "Краёвае згуртаванне літвінаў".*

*"Спіс заснавальнікаў ГА "Краёвае згуртаванне літвінаў" утрымлівае ў сабе няпоўныя і несапраўдныя звесткі аб заснавальніках дадзенага грамадскага аб'яднання, у сувязі з чым з'яўляецца несапраўдным дакументам",* — гаворыцца ў адказе з Міністэрства юстыцыі.

У якасці няпоўных і несапраўдных звестак прыводзіцца адсутнасць нумароў хатніх і рабочых тэлефонаў двух заснавальнікаў, недакладныя звесткі пра месца пражывання трох заснавальнікаў. Пры гэтым прыкладам недакладных звестак прыводзіцца тое, што адрас аднаго заснавальніка пададзены наступным чынам: "г.Слаўгарад, вул.К.Маркса", тады як, заяўляючы ў Мінюсце, ён мусіць выглядаць наступным чынам: "г.Слаўгарад, вул. Маркса Карла Фрыдрыхавіча". І гэта пры тым, што бацьку Карла Маркса звалі Генрыхам.

Ну, ці не абсурд?

Зараз заснавальнікі грамадскага аб'яднання рыхтуюць скаргу ў Вярхоўны суд.

**ЧИТАЙТЕ!**



# Украина—Россия: чья вина?

**Для нас, белорусов, главная болевая точка сегодня — это, конечно, Украина. О том, под каким ракурсом рассматривают ситуацию, сложившуюся у наших соседей, видные западные, украинские и российские интеллектуалы, аналитики, деятели культуры, читайте на 6—8-й страницах.**

**ПРЯМАЯ ЛИНИЯ**

## Береги суставы смолоду

*Почти каждый шестой человек после сорока пяти лет жалуется на боли в суставах. Вопреки бытующему мнению, что поражение суставов — удел стариков, все чаще заболевают артритами люди в самом активном возрасте — 30—50 лет.*



***Почему возникают заболевания суставов?***

***Чем отличается артроз от артрита?***

***Правда ли, что предрасположенность к артрозу передается по наследству?***

***Можно ли избавиться от боли в суставах при помощи народных средств?***

***Почему хрустят и щелкают суставы у младенцев?***

***Как правильно работать на даче, чтобы не навредить спине?***

На эти и другие вопросы на "Прямой линии" ответит врач-ревматолог высшей категории медицинского центра **"ЛОДЭ"**, кандидат медицинских наук, сотрудник 2-й кафедры внутренних болезней БГМУ **Ирина Аркадьевна ВАРОНЬКО**.

**Звоните завтра, в среду 1 октября, с 18.00 до 19.30 по телефону 328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой "Прямая линия".

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Пирамида на подпорках

Сегодня каждый процент прироста ВВП Беларуси радует глаз и поднимает дух правительства. Да что там процент, каждая десятая процента на весах. При годовом прогнозе роста ВВП на 3,3% за январь—август в сопоставлении с таким же периодом прошлого года он увеличился на целых 1,5%.

Несколько уменьшились запасы готовой продукции на складах предприятий. Они уже составляют 77,8% среднемесячного выпуска по стране. Не то, что раньше, когда они были не менее 80%.

Но эта динамика явно недостаточна, чтобы выбраться из стагнации. Для разгона экономики Нацбанк, уступая давлению правительства, несколько раз снижал ставку рефинансирования, удешевляя кредиты предприятиям. С начала года он ее снизил на 3,5%, доведя до 20% годовых. Но и этого оказалось мало. Как следствие размягчения денежно-кредитной политики главного регулятора инфляция в пересчете на год уже составила 20,5%, то есть реальная ставка рефинансирования Нацбанка провалилась в отрицательную область (-0,5%). Дальше отступать некуда.

Сократив неимоверными усилиями импорт, правительство добилось положительного сальдо в торговом балансе. За январь—июль оно составило 456,9 млн долларов. Используя ситуацию, сложившуюся в связи с введением обоюдных экономических санкций Россией и Евросоюзом, Беларусь вовсю занялась "этикеточным" бизнесом и, если верить некоторым источникам, гонит восточной соседке норвежскую рыбу, польское и литовское молоко с легкой обработкой и западные овощи и фрукты без таковой вообще. Россельхознадзор иногда заворачивает просачивающуюся через Беларусь продукцию Евросоюза. Вновь свою жилу нашли наши умельцы и на нефтехимическом фронте. За семь месяцев Беларусь экспортировала нефтехимической продукции в Россию без уплаты таможенных пошлин в ее бюджет на 450 млн долларов. Это смеси битумные на природных минеральных смолах, а также антидетонаторы, антиоксиданты, ингибиторы и прочее, название чего непосвященный человек услышит первый и последний раз. Экспорт этих и отдельных других нефтехимических наименований увеличился в разы или в десятки раз. Видно, что наработанный в 2012 году опыт взрывного растворительного-разбавительного экспорта не пропал даром.

Однако Россия как бы в отместку придумала так называемый налоговый маневр. Российский Минфин предложил с начала следующего года резкое снижение пошлин на экспорт нефти, а как компенсацию — не менее резкое повышение налога на добычу полезных ископаемых. Это сулит подорожание нефти для наших нефтезаводов, и нефтяной сектор, по предварительным подсчетам, может потерять до 250 млн долларов. Уменьшение экспортной пошлины на белорусские нефтепродукты ставит под сомнение получение тех 1,5 млн долларов, о которых были договоренности с Россией. Резкая девальвация российского рубля под влиянием западных санкций, его ослабление к белорусскому рублю будет, как ожидается, удорожать наш экспорт в Россию, ухудшая его и без того не лучшие конкурентные позиции. Попавшие под санкции российские банки, удорожат свое кредитование белорусских "дочек". Таких, как "Белгазпромбанк", "БелВЭБ", "БПС-Сбербанк", "ВТБ Беларусь".

Белорусский Минфин констатирует низкий уровень исполнения утвержденного бюджета. Так, налог на прибыль принес в бюджет в первом полугодии 1,4 трлн рублей (17,6% от годового плана). Налоговые доходы от внешнеэкономической деятельности по сравнению с аналогичным периодом прошлого года снизились на 28,6%. В том числе и потому, что с начала года действовала "нулевая" ставка вывозной пошлины для "Беларуськалия" в целях стабилизации его работы. Над бюджетом довлеют растущие выплаты по государственному внешнему долгу, который достиг 14 млрд долларов. На его погашение в первом полугодии было направлено 1,8 млрд долларов. В этих условиях Минфин вынужден изыскивать дополнительные источники доходов в государственную казну.

Практически решен вопрос о повышении на 1% подоходного налога с физических лиц (с 12% до 13%) и увеличение на 2% налога на добавленную стоимость (с 20% до 22%). Как считают многие аналитики, то, что указанное повышение подоходного налога предложено в рамках проекта "Большая семья", и то, что все дополнительно собранные средства пойдут исключительно на помощь многодетным семьям, не более чем пропагандистское прикрытие бюджетных дыр. При уровне занятости в экономике 4,48 млн человек и среднемесячной зарплате 6,45 млн рублей (в июле) ожидается, что в бюджет дополнительно поступят 3,5 трлн рублей. Они вполне могут быть централизованы в республиканском и областных бюджетах и до конечных получателей (семей) если и дойдут, то не в тех суммах, на которые был расчет. Ежегодно в Беларуси рождается порядка 15 тысяч третьих и больше детей. Для них нужно выделить где-то 150 млн долларов в эквиваленте. Но до своего 18-летия эти деньги подрастающие дети не увидят. Кто этими деньгами все это время будет распоряжаться — вопрос риторический. Да за столь долгое время белорусы могут очутиться уже в составе другого государства и выйти из него. Повышение НДС — нечего комментировать. Полный минус для всей экономики. Так же трудно и приводить, и комментировать давно известные и назревшие предложения, за счет которых можно поправить ситуацию с бюджетом. Это сокращение бюджетных управленческих расходов, ликвидация квазибюджетного финансирования госпрограмм и кредитов, адресные социальные выплаты и т.д.

Валовой внешний долг Беларуси (государственный долг, плюс долги Нацбанка и коммерческих банков и долги предприятий) достиг круглого числа — 40 млрд долларов, или 4289 долларов на брата (против 3723 долларов год назад). Это уже свыше 55% ВВП. В ожидании российского 2-миллиардного долларового кредита белорусские денежные власти перехватили так называемый недешевый долларовый бридж-кредит у российского коммерческого банка ВТБ. От правительства России Беларусь получит в конце сентября 1,55 млрд в долларовом эквиваленте. Именно в эквиваленте, потому что кредит выдадут в российских рублях. Ими как-то придется рассчитываться с ВТБ. Рассчитаются, и вновь власти окажутся с нулем. Неслучайно они рассчитывают продолжить диалог с МВФ, используя благосклонное отношение Запада к посреднической позиции Беларуси в российско-украинском военном конфликте. Белорусское правительство изучает и возможность размещения облигаций Минфина на финансовом рынке США. Пошли разговоры об увеличении количества сотрудников в Посольстве США в Беларуси, которое вот уже который год работает без посла (как и наше в Вашингтоне). Однако эксперты не разделяют оптимизма властей. Поскольку белорусская экономика не в состоянии обойтись без внешней валютной подпитки, властям ничего не остается, как делать новые долги, чтобы рассчитаться со старыми. А подпорки к этой финансовой пирамиде уже давно может делать только одно государство.



**КАМПАНІЯ**

## Ёсць 50 тысяч!

*Пяцьдзясят тысяч подпісаў у падтрымку кампаніі "Народны рэферэндум" ужо сабраны і будуць перададзены ў Палату прадстаўнікоў 2 кастрычніка.*

— Мы спецыяльна чакалі 2 кастрычніка, калі адкрыецца восеньская сесія парламента. У гэты дзень мы плануем падаць першыя 50 тысяч подпісаў, — расказаў адзін з лідараў кампаніі **Сяргей ВАЗНЯК.** — Другія 50 тысяч подпісаў мы таксама прымяркуем да нейкай падзеі. Подпісы будзем збіраць і далей, хаця мы лічым, што 50 тысяч — гэта ўжо вельмі добра, гэта шмат. Дэпутатам адмахнуцца ад іх будзе складана. Тым больш што ў гэтых пяцідзесяці тысячах ёсць подпісы выбаршчыкаў з усіх 110 выбарчых акруг.

Нагадаем, што кампанія "Народны рэферэндуму" вылучыла шэраг пытанняў, якія прапануецца вынесці на народнае абмеркаванне, такіх як бясплатная медыцына і адукацыя, ваенная бяспека краіны, абранне прэзідэнта не больш як на два тэрміны і іншыя.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
30 ВЕРАСНЯ 2014 г.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ



Віталь ГАРБУЗАЎ

# З галавы на ногі

**У цывілізаваным свеце пра памер даходаў трэнераў нацыянальных каманд можна даведацца, проста зайшоўшы на іх сайт: уся інфармацыя ў адкрытым доступе. Так правільна, так прынята. Падаткаплацельшчык павінен ведаць, каму, колькі і за што ён плаціць. У нас агучыць свае заробкі лічаць за патрэбнае адзінкі.**

**Днямі беларуская грамадскасць даведалася: зарплата новага галоўнага трэнера зборнай Беларусі па хакеі Уладзіміра Крыкунова складзе 200.000 еўра за год (дзесяць месяцаў) працы з камандай. Дарэчы, столькі ж атрымліваў і папярэднік Уладзіміра Васільевіча на гэтай пасадзе канадзец Глен Хэнлан, які ў выніку прамяняў “стабільную” Беларусь на больш заможную і сытую Швейцарыю.**

**200 тысяч еўра за няпоўны год — гэта многа ці мала? Зразумела, для нашай краіны гэта многа. Каб не быць галаслоўным, прывяду канкрэтныя лічбы для параўнання. Так, паводле дадзеных Белстата, сярэдняя месячная зарплата ў краіне за студзень—жнівень бягучага года склала 5.922.427 рублёў. Гэта значыць, што за зарплату беларус (які, зразумела, не працуе галоўным трэнерам хакейнай зборнай) можа набыць 439 еўра. Для таго, каб зарабіць хаця б адну месячную зарплату Крыкунова (Хэнлана і ім падобных), сярэднестатыстычнаму беларусу трэба працаваць 45 месяцаў — амаль чатыры гады!**

**Лічбы ўражваюць. Нехта скажа: параўнанне некарэктнае, прыцягнутае за вушы. Маўляў, нельга блытаць боб з гарохам і ставіць у адзін шэраг заробак галоўнага трэнера зборнай з заробкамі дактароў, настаўнікаў, сялян… Бо зборная — твар дзяржавы, і які выраз будзе ў гэтага твара, залежыць ад трэнера. Але далёка не ўсе трэнеры беларускіх зборных па іншых відах спорту могуць пахваліцца такімі даходамі.**

**Хай кожны з нас адкажа сабе на простыя пытанні:**

**— Што важней для большасці: наяўнасць у звычайнай бальніцы новага кардыёграфа ці перамога зборнай Беларусі па хакеі над, напрыклад, Казахстанам ці Нарвегіяй?**

**— Што важней для большасці: кваліфікаваныя настаўнікі ў кожнай школе ці выхад хакейнай зборнай на Алімпіяду?**

**— І, у рэшце рэшт, што важней для большасці: ведаць, што калі раптам напаткае няможная старасць, то дзяржава цябе не кіне дагніваць у адзіноце, ці чарговае паведамленне пра тое, што з канадцамі беларусы гулялі на роўных?..**

**Як па мне, дык адказы відавочныя. Для большасці куды важней якасць медыцынскага абслугоўвання, узровень прафесіяналізму школьнага настаўніка, сацыяльныя гарантыі. Без відовішчаў мы зможам пражыць, а вось без здароўя, ведаў, хлеба — наўрад ці.**

**Асабіста я не супраць, каб той жа Уладзімір Крыкуноў атрымліваў добрыя грошы — усе прафесіі патрэбныя, усе прафесіі важныя.**

**Іншае пытанне: чаму наша дзяржава не шкадуе грошай на не самае неабходнае? Ці пагадзіўся б Уладзімір Крыкуноў узначаліць беларускую каманду, калі прыйшлося б атрымліваць нават не 439 еўра ў месяц, а, скажам, 1439, што з’яўляецца недасяжнай марай для многіх беларусаў? Упэўнены, што не. Хаця старшыня федэрацыі хакея Беларусі Яўген Ворсін, прадстаўляючы новага галоўнага трэнера, пераконваў журналістаў, што ў далёкім 2002-м, калі беларусы занялі чацвёртае месца на Алімпіядзе, Уладзімір Васільевіч быў гатовы працаваць са зборнай на альтруістычных пачатках — бязвыплатна.**

**Нехта можа заўважыць: плаціць добрыя грошы хакейным (ды і не толькі хакейным) трэнерам прынята ва ўсім свеце. Да таго ж заробак Крыкунова значна меншы, чым у трэнераў зборных Швецыі, Чэхіі Канады, Фінляндыі… Гэта ўсё так. Але ж ва ўсім свеце і для простых людзей значна вышэйшы сацыяльны мінімум, гарантаваны дзяржавай. Напрыклад, маламаёмасных там забяспечваюць бясплатнымі кватэрамі. А ў нас? На іхнюю дапамогу па беспрацоўі можна пражыць, пакуль не знойдзеш работу, а на нашу? Там не трэба несці ў бальніцу ці дзіцячы садок свае кубкі-лыжкі-алоўкі-сшыткі… А ў нас — трэба.**

**Заробак беларускіх настаўнікаў непараўнальны з даходамі шведскіх калег, беларускі тэрапеўт не можа пахваліцца тым, што атрымлівае столькі ж, колькі фінскі доктар, наўрад ці наш камбайнер зарабляе столькі, колькі чэшскі… А вось заробкі хакеістаў мы чамусьці мераем высокай мерай.**

**Безумоўна, спорт высокіх дасягненняў — справа патрэбная, спорт — пасол міру, ён працуе на імідж дзяржавы і гэтак далей і таму падобнае. Але ці трэба захоўваць гэты імідж любой цаной?**

**Той жа хакей — спорт для багатых людзей у багатых краінах. Беларусі, якая апошнія дваццаць гадоў, па сутнасці, жыве ў крэдыт, якая абабрала сваіх грамадзян рознымі інфляцыямі-дэвальвацыямі, абдзяліла сваіх абяздоленых (цяжка хворых, адзінокіх старых, інвалідаў), пазбавіўшы многіх ільгот, дзіўна нават старацца адпавядаць “еўрапейскім стандартам” у хакейных заробках. Гэта няправільна, гэта сорам!**

**Ёсць добрая прыказка: “Прэтэндуеш — адпавядай”. Хочаш гуляць у “вялікі хакей” — зрабі краіну заможнай, а потым бярыся за спорт багацеяў. Толькі не наадварот.**

**Наша ўлада (прынамсі, пра гэта не раз гаварылі нашы высокія чыноўнікі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам) паставіла высокую мэту — каб Беларусь прэтэндавала на самыя высокія месцы ў хакейнай іерархіі свету. Навошта? Ці адпавядае сённяшні стан эканомікі і ўзровень жыцця беларусаў гэтым намаганням? Відавочна не. Таму ці не надышоў час дзяржаве ў рэшце рэшт вярнуць сітуацыю з галавы на ногі, вызначыцца з прыярытэтамі. І спачатку ўзняць дабрабыт настаўнікаў, урачоў, сялян, будаўнікоў, пенсіянераў, і толькі тады пачынаць укладаць шалёныя грошы хоць у хакей, хоць у гольф, хоць у “Формулу-1”?..**

ВІНШУЕМ!

# Невідушчы паэт-легенда Алесь Чобат выдаў новую кнігу



І ў поўнай цемры могуць нараджацца вобразы, сімвалы ды нават адлюстраванні слаўнай гісторыі. Невідушчы паэт-легенда Алесь Чобат прэзентаваў у Гродне сваю пятую кнігу.

“Кароткая гісторыя Беларусі” — гэта не толькі хрэстаматыйны падручнік Вацлава Ластоўскага, які выйшаў сто год таму, а яшчэ і назва апошняга зборніка вершаў цалкам сляпога, але праз гэта не менш таленавітага паэта Алеся Чобата.

*„Тут усё па храналогіі, я дабраўся ад князя Міндоўга да 1991года. Вось вам і кароткая гісторыя Беларусі”,* — тлумачыць аўтар.

Прэзентацыя зборніка і сустрэча з самім Алесем Чобатам прайшла ў гродзенскай галерэі “Крыга”, хоць сам Чобат ужо некалькі год вядзе самотны лад жыцця ў Скідзелі. Даглядае сляпога паэта ягоная літаратурная настаўніца старэйшага пакалення Данута Бічэль.

## Асабістая справа

Алесь ЧОБАТ — беларускі паэт, празаік, публіцыст, эсэіст.

Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у Мінску. Працаваў канструктарам, журналістам, навуковым супрацоўнікам. Аўтар кніг “Год”, “Новая Галілея”, “Ты не самотны...”, “Крэсы” і шматлікіх гісторыка-псіхалагічных эсэ, апавяданняў, хронік і біяграфій. Належыць да Саюза беларускіх пісьменнікаў і Міжнароднага ПЕН-клуба.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Пакутніцы і дыктатар

Сёння, 30 верасня, — Дзень памяці Веры, Надзеі, Любові і іхняй маці Сафіі. Імёны святых хрысціянскіх пакутніц ва ўсіх на слыху, аднак мала хто ведае пра іх духоўны подзвіг.

У 137 г.н.э. Вера, Надзея і Любоў былі жорстка закатаваны і забіты па загадзе рымскага імператара Адрыяна. А ўся віна дзяўчынак была толькі ў тым, што яны не захацелі адмовіцца ад Хрыста, не пажадалі прынесці ахвяру грэчаскай багіні Артэмідзе.

Імператар Адрыян загадаў катаваць дзяўчынак на вачах іхняе маці Сафіі. А каб шматкроць павялічыць пакуты жанчыны, імператар яе не крануў, больш за тое, аддаў ёй знявечаныя цельцы. З дапамогаю хрысціян Сафія вывезла сваіх мёртвых дзетак за межы Рыма і пахавала на ўзвышшы. Тры дні і тры ночы яна праплакала над магіламі, пакуль ад гора не сканала сама.

Хрысціянская парадыгма пакутніц — сімвалічная. Манатэістычна фемінізаваны Творца (мудрая Сафія) у трох іпастасях: Бог-бацька, Бог-сын, Бог — дух святы. Дванаццаць апосталаў сімвалізаваны ва ўзросце старэйшай дачкі Веры, 10 запаведзяў — у гадах Надзеі, і дзявятка (узрост Любы) — як сімвал дзявятага дня пасля смерці, калі душа знаходзіцца на шалях у Госпада. Увесь трыадзіны комплекс хрысціянскіх і агульначалавечых каштоўнасцяў. Ён семантычна выяўляе ідэю суцэльнага перадаручэння сябе Богу адзінаму, дабрадаці ад знаходжання ў руках Госпадніх і ў гармоніі са светам. Язычнік-імператар увасабляе антыхрыста.

Вернікі лічаць, што нявінныя дзеці бліжэй да прастола Госпада, а Сафія — да Багародзіцы.

Хрысціяне спрадвеку называюць Дзень памяці Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі агульнымі жаночымі імянінамі. Прычым свята адзначаецца не адзін, а тры дні — столькі, колькі Сафія праплакала над магіламі сваіх дачок. Дзяўчынак, якія нарадзіліся ў гэтыя дні, у цэрквах хрысцяць выключна імёнамі Вера, Надзея, Любоў і Сафія.

Цяпер мошчы пакутніц захоўваюцца ў Эльзасе (Францыя), у царкве Эшо.

Пра духоўны подзвіг Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі падрабязна расказваецца ў рамане пісьменніка **Алеся УСЕНІ “Грэх”,** які нядаўна з’явіўся на кніжных паліцах.

Зрэшты, раман не толькі пра святых пакутніц. Іудзейскае паўстанне, пасля якога яўрэі на дзве тысячы гадоў страцілі сваю тэрыторыю, інтрыгі і барацьба за трон у Рымскай імперыі, а перадусім — гісторыя трагічнага кахання маладых іудзея і хрысціянкі...

Раман з прыгодніцкім, амаль дэтэктыўным сюжэтам цікавы не толькі малавядомымі і падрабязна выпісанымі падзеямі падчас ранняга хрысціянства. У ім можна знайсці і праявы нашага сучаснага грамадска-палітычнага жыцця. Узяць, да прыкладу, імператара Адрыяна. На першым часе ён быў ліберальным кіраўніком імперыі, паблажліва ставіўся да іншаверцаў і іншадумцаў, але паступова стаў тыранам, дыктатарам, у выніку чаго дэмакратыя,




характэрная для колішняга рымскага грамадства, сышла на нішто. Вось што пісаў пра Адрыяна ягоны сучаснік, гісторык і пісьменнік Тацыт: “Цяпер свабода слова абмежавана судовым красамоўствам. Аб прасторы, якою карысталіся прамоўцы часоў Цыцэрона і Варона, няма чаго і думаць... Якая патрэба ў шматслоўных прамовах, што гучаць у Сенаце, калі ўсе добранамераныя адразу ж прыходзяць да згоды? Навошта цяпер народныя сходы, калі дзяржаўныя справы абмяркоўваюць не невукі і шматлікі натоўп, а самы мудры і адзін?”

Сам жа імператар Адрыян акрэслівае сваю дыктатарскую ролю так: “...Я для народа проста бацька. А дзеці павінны бацьку слухацца і не рабіць што каму ўздумаецца. Загадана ўсім маліцца рымскім багам — дык і няхай моляцца, а не прыдумваюць для сябе іншых ідалаў! І калі імперыя — гэта сям’я, дык усім трэба жыць па агульных правілах, якія ўстанавіў бацька! Калі ж хто не хоча, дык той заслугоўвае кары, нават самае суровае. А як жа інакш? Папусціш аднаму, дык і не скмеціш, як ад яго іншыя заразы набяруцца, вольніцы захочуць...”

Раман “Грэх” — несумненная творчая ўдача аўтара, кніга атрымала прыхільныя водгукі. Да прыкладу, вядомы паэт Леанід Галубовіч (ён жа — бескампрамісны літаратурны крытык ЛеГАЛ) напісаў: “Твор... па-добраму ўражвае. Ён прэзентабельны для любой чытацкай аўдыторыі. Тым больш што гэта рэдкі беларускі гістарычны раман на небеларускай аснове... Як для мяне, то з падтэксту твора выснոўваецца для чытача наступная тэза: чалавек, абапіраючыся толькі на любоў, веру і надзею і тым самым як бы спавядаючы “непротивление злу”, ніколі не зможа пазбегнуць і адпрэчыць ні подлых намераў, ні самой подласці і прыгнёту, якія сыходзяць ад таталітарных рэжымаў, дзе б і ў якім выглядзе яны ні існавалі. Дух павінен абапірацца на сілу. І тады сіла духу павінна змагчы сілу зла...”

Застаецца толькі дадаць, што кнігу Алеся Усені “Грэх” можна набыць у крамах ААТ “Белкніга”, у мінскіх кнігарнях “Акадэмічная кніга” (вул.Сурганава, 11), “Галіяфы” (вул.Валгаградская, 6-26), “Кніжны салон” (вул.Калініна, 5), у інтэрнэт-краме “Імбрык” (imbryk.by).

**Віктар ЕРМАКОЎ.**

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Какие реформы нужны Беларуси?

*Три главные проблемы белорусского здравоохранения: зарплаты, очереди и коррупция из-за больничных листков*

*Bloomberg посчитал белорусскую систему здравоохранения эффективнее американской, и тем не менее белорусы хотят ее реформирования, о чем свидетельствуют данные соцопросов. О проблемах этой сферы и путях их решения говорили на “круглом столе”, который на днях состоялся в Минске.*

## Как повысить зарплату врачам?

В Беларуси принята Стратегия развития здравоохранения до 2020 года. О реализации ее положений говорила замдиректора по экономическим исследованиям Республиканского научно-практического центра здравоохранения **Ирина Новик:**

— Практически во всех странах основной упор в первичном звене сделан на врача общей практики, который имеет навыки оказания первичной офтальмологической, неврологической, хирургической и другой помощи. Министерство здравоохранения ставит себе задачу постепенно перейти к работе участкового специалиста по такому принципу.

По ее словам, это позволит снизить нагрузку на врачей амбулаторно-поликлинического звена, оказать пациенту комплексную услугу и повысить заработную плату за счет оптимизации кадров: “Сегодня нужен максимум помощи при минимуме посещений, но не наоборот”.

Для всего этого, по словам эксперта, врачи общей практики должны пройти соответствующее обучение. Этот процесс уже запущен на селе. Но уже сейчас, говорит Ирина, у врачей появится еще одна возможность зарабатывать больше: “В июле 2014 года вышел приказ Минздрава, который позволит премировать специалистов за качество, за результат оказанной медицинской помощи”.

Свой способ повысить зарплату врачам высказал координатор программ ВОЗ в Беларуси **Валентин Русович.** Он отметил, что на здравоохранение у нас тратится 3 миллиарда долларов в год, а чтобы поднять зарплату 5 тысячам врачей общего звена, нужно изыскать из этой суммы всего 1 процент.

— В любой системе есть 20% нерационального расходования средств. Поэтому изыскать средства на повышение зарплат можно, начав с экономии электроэнергии и прекращения нерациональных выплат некоторым специалистам, — уверен эксперт.

## Как сократить очереди в поликлиниках?

Однако повышением зарплат не сократить очереди в поликлиниках, а соответственно, не улучшить качество первичных медицинских услуг. Свое видение решения этой проблемы высказал директор Агентства медицинского туризма **Михаил Недвецкий:**

— Это можно решить созданием равных условий для государственных и частных учреждений здравоохранения. Для меня непонятно, почему государство не может наделить частные медцентры правом выдавать больничные. Если бы это право у них появилось, то часть людей начала бы обслуживаться там, и это снизило бы нагрузку на поликлиники.

Как отметил Михаил Недвецкий, этот вопрос актуален, ведь стоматологические туры в Беларусь — в топе у россиян, и они постоянно интересуются, смогут ли им выдать больничный на время той же двухнедельной имплантации.

Ирина Новик обратила внимание, что в решении этого вопроса должны быть заинтересованы и сами частные центры.

## Как искоренить коррупцию из-за больничного?

Свой вариант разгрузки поликлиник и уменьшения очередей в них высказал Валентин Русович:

— Большинство взрослых людей чаще всего переносит самоизлечимые простудные заболевания за пару дней. Таких людей очень много, но, чтобы получить больничный, они все равно идут в поликлинику, и это создает очереди. В Европе же в первые 3 дня болезни к врачу никто не ходит, так как их по закону оплачивает наниматель.

Работник просто предупреждает о болезни, а работодатель может прислать представителя профсоюза для контроля, так ли это. По закону там человек обязан обратиться к врачу лишь на четвертый день.

Русович считает, что эта практика была бы полезной и в Беларуси. По примеру европейских стран он предлагает, чтобы работодатель оплачивал больничный работнику в количестве 5 дней в году и не более 3 дней подряд. Соответственно, в ситуации, если взрослый человек болеет раз-два в году, он вовсе не будет появляться в поликлинике и создавать очереди.

— Этим мы ликвидируем очереди минимум на 30%, облегчим работу участковым врачам и искореним коррупцию из-за больничного листа. В Европе такого типа коррупцию вы не увидите.

Ирина Новик отметила, что вопрос о предоставлении нанимателем работнику освобождения от работы на 3 дня без оформления больничного листа был поднят на коллегии Минздрава год назад. Она высказала надежду, что он может быть решен положительно.

## Нужно ли Беларуси такое число коек в больницах?

В Евросоюзе не только отсутствует коррупция из-за больничного листа, но и нет такого, как в Беларуси, количества койко-мест в учреждениях здравоохранения. Там на 1000 человек приходится в среднем 5,5 койки, у нас же этот показатель в два раза выше. О том, нужно ли такое их количество, давно идут дискуссии. Но Ирина Новик отметила, что койко-места нужно не сокращать, а перераспределять.

— В Беларуси, как и в странах ЕС и СНГ, идет процесс старения населения, накопления хронических заболеваний, что оказывает влияние на увеличение потребности населения страны не только в стационарной, но и в медико-социальной, реабилитационной, хосписной помощи. Мы не должны об этом забывать.

Добиться грамотного перераспределения койко-мест с упором на те же хосписы, по словам Ирины Новик, не так сложно. Сложнее же заставить включить в реформу здравоохранения как можно больше участников.

— Наша задача — объединить усилия всех министерств, ведомств, общественных организаций и СМИ, чтобы человек со школы был ответственен за свое здоровье и знал, что никакое здравоохранение не вернет здоровье. Формирование здорового образа жизни — это задача всех и каждого в отдельности.

Но, как отметила юрист Белорусского общества прав потребителей **Тамара Бельская,** невозможно рассчитывать на успешность реформ при нелогичности действий государства:

— Не должно быть так: сегодня государство говорит, что курение — это плохо, а завтра дает деньги на модернизацию Гродненской табачной фабрики.

**Станислав ШАРШУКОВ.**

ПРОЩАНИЕ

# Ветер Времени всегда наполнял ее паруса

В Минске на 86-м году жизни умерла известный сценарист документального и художественного кино, драматург, журналист **Ирина ПИСЬМЕННАЯ.** В начале перестройки вместе с Татьяной Логиновой и Эллой Миловой она стояла у истоков независимой женской киновидеостудии “Татьяна”. В 1991 году эта студия основала международный фестиваль женского кино, он был первым фестивалем такого рода не только на пространстве бывшего Союза, но и вообще стран Восточной Европы. Студия наработала себе доброе имя, известное у нас и на Западе в женском общественном движении.

По сценариям Письменной, созданным лично и совместно с другими авторами, сняли фильмы Дмитрий Михлеев, Аркадий Рудерман, Юрий Хащеватский, Валерий Рубинчик, Игорь Коловский и другие. Один из последних киносценариев Ирины Письменной “Похожий на Стинга” планирует экранизировать российский режиссер Егор Кончаловский.

Мы попросили друзей и коллег сказать несколько слов об Ирине Леопольдовне Письменной, человеке сильного творческого потенциала, неутомимой и яркой личности.

**Алла Бобкова, кинокритик:**

— Ирина Письменная была литературно одаренной личностью. В отношениях с людьми и в быту — человеком щедрым и веселым. Ее квартира до самого последнего времени была интеллектуальным клубом, туда приходили люди разных поколений. Не удивительно, что на панихиде было много молодых лиц. На поминках один юноша признался, что ему было гораздо интересней с Ириной Леопольдовной, чем со сверстниками. Такой характеристики, как вы понимаете, удостаиваются редкие люди, тем более если учитывать, что одному — 85, другому — 25.

Дело в том, что Ирина Письменная, несмотря на преклонный возраст, не уступала молодым ни в живости мысли, ни в иронии, а тем более самоиронии. Ее пришли проводить писатель Владимир Мехов, композитор Александр Ренанский, вдова Василя Быкова — Ирина Михайловна Быкова, учащиеся киношколы “Синема” и очень много людей, которые были ей просто обязаны и уроками, и общением, и дружбой, и наставлением.

Ирина Леопольдовна 40 лет проработала в документальном кино как автор и соавтор многих хороших фильмов. С ней работали такие известные режиссеры, как Игорь Коловский, Аркадий Рудерман, Юрий Хащеватский, Дмитрий Михлеев, Валерий Рубинчик. Они с коллегами из независимой студии “Татьяна” после многих лет замалчивания первые в 1995 году обратились к личности Бориса Заборова и сделали о художнике фильм. Работа директором этой студии — важный период в ее жизни, длившийся более 10 лет. “Татьяна” очень интересно проявила себя в фестивальном движении: проводила международный фестиваль женского кино. И студию знали в Европе.



**Юрий Хащеватский, кинорежиссер:**

— На мой взгляд, Ирина Письменная была образцом человека, который умеет держаться. Я очень любил... и люблю Ирину... Вы понимаете, в солидном возрасте она освоила компьютер, причем не любительски, она работала на нем мощно! Это был человек, которого годы не брали: умела оставаться с молодыми мозгами, не выпадала из времени. Мы сделали с Ириной документальный фильм “Оранжевые жилеты”, который купили телевидение ФРГ и Польши. Она была талантливый человек с широким сердцем и душой, внутри которых было столько любви и гуманизма, разума... Жаль, очень жаль, что она ушла. Нашему времени очень не хватает того, чем в избытке обладала Ирина Леопольдовна.

**Владислав Ефремов, кинорежиссер (Россия, Санкт-Петербург):**

— Душа моя эти дни не свободна, я не успел приехать на похороны, не успел попрощаться с Ириной Письменной... Она один из главных людей в моей жизни. Сначала судьба свела нас на поприще кино, потом наши отношения переросли в тесную дружбу, а потом и обе наши семьи, по сути, сроднились. Творчество Ирины Письменной было востребовано, по ее сценариям снято много документальных фильмов, поставлены спектакли, и не только в Беларуси.

О кончине Ирины я узнал вечером того же дня, когда она умерла. А еще днем почему-то открыл в интернете ее письма и долго сидел, их перечитывая. Она умела так взять душу словом... И почему вдруг я стал перечитывать ее давние послания? Оказывается, не случайно. Пусть земля будет ей пухом.

**Изабелла Готовчиц, кино- и театральный критик:**

— Ее дом был одним из самых интересных в Минске. Дом, создающий культурную среду, своего рода легенда. К слову, вся ее многочисленная родня — тоже люди творческие, одаренные писатели, художники. Весь дом Ирины был настроен на высшую ценность, чтимую среди интеллигенции, — на общение. К хозяйке всегда тянулись люди — столичные, приезжие, потому что с ней всегда был нескучный разговор.

Лучшее, что написала Ирина, по-моему, — это пьеса “Похожий на Стинга”. Работа высоко котируется сейчас среди режиссеров. Студия Егора Кончаловского обратила на него внимание. Ирина Письменная работала до последних дней своей жизни. Кто-то сидит и жалуется на цены, на детей, на отсутствие того-этого, а Ирина — человек с болезнью Паркинсона, между прочим — каждый день работала за письменным столом. Она держалась до конца с большим достоинством.

Я считаю, Ирина Письменная была отличным организатором. Кто-то назвал ее “заводилой”, и это правильно. Ведь та киностудия “Татьяна”, одним из организаторов которой она была, — создавала настоящий климат в столице. “Татьяна” делала замечательные международные фестивали, на которые приезжало пол-Европы: женщины-кинематографисты из Германии, Чехии, Словакии, Норвегии.

**Елена МОЛОЧКО.**

КАМУНАЛКА

# *Ну і апетыты ў чыноўнікаў Мінскага гарвыканкама!*

Мінгарвыканкам прапаноўвае павялічыць пеню за пратэрміноўку плацяжоў за камунальныя паслугі ў сто разоў. Аб гэтым паведаміў намеснік старшыні Мінгарвыканкама **Уладзімір Кухараў** на пасяджэнні гарадскога выканаўчага камітэта, прысвечанага мерам па павышэнні эфектыўнасці і ўдасканаленні працы прадпрыемстваў жыллёвай гаспадаркі.

На сёння плацельшчыкі ЖКП, якія несвоечасова і/або не ў поўным аб’ёме ўнеслі плату за жыллёва-камунальныя паслугі, выплачваюць пеню ў памеры 0,3% ад нявыплачанай ва ўстаноўлены тэрмін сумы гэтых плацяжоў за кожны дзень пратэрміноўкі.

Паводле слоў спадара Кухарава, на 1 верасня гэтага года пратэрмінаваная запазычанасць мінчан за жыллёва-камунальныя паслугі склала 7,7 мільярда рублёў. Ён адзначыў, што спагнанне з насельніцтва запазычанасці за жыллёва-камунальныя паслугі з’яўляецца для жыллёвых арганізацый сур’ёзнай праблемай.

На жаль, чыноўнік ні слова не сказаў пра тое, што нямала людзей маюць такія даходы, што не могуць звесці канцы з канцамі.

ДАТА

# Дзеля Бога і людзей

*20 кастрычніка 2014 года споўніцца 25 гадоў з дня епіскапскай хiратоніі арцыбіскупа **Тадэвуша КАНДРУСЕВІЧА,** мітрапаліта Мінска-Магілёўскага.*

Аднак урачыстасці з гэтай нагоды прызначаны на іншы дзень. У сувязі з удзелам арцыбіскупа ў III Надзвычайнай сесіі Сінода біскупаў у Ватыкане, святкаванне падзеі адбудзецца ў дзень імянін мітрапаліта — 28 кастрычніка.

У апошні аўторак кастрычніка ў Мінскім кафедральным саборы Найсвяцейшай панны Марыі ў 18.30 адбудзецца святая імша, на якую мітрапаліт сардэчна запрашае ўсіх.

Нядаўна мітрапаліт Кандрусевіч даў інтэрв'ю сайту беларускіх католікаў, у якім крыху расказаў пра сябе.



## 10 цікавостак ад мітрапаліта

### 1.Быў прызёрам алімпіяд па фізіцы

— Сярод школьных прадметаў найбольш мне падабаліся фізіка і матэматыка. Яшчэ школьнікам, удзельнічаючы ў раённых і абласных алімпіядах па гэтых прадметах, я займаў высокія месцы. Таму страху перад паступленнем не было, ды і цяжкасцяў з паступленнем таксама. Нейкі час задумваўся пра медыцыну, але паступіў у выніку на фізмат Гродзенскага педагагічнага інстытута.

### 2.Забраў дакументы пасля першага курса па ўласным жаданні

— У інстытуце мне падабалася. І атмасфера, і студэнты. Але кожную нядзелю я хадзіў у касцёл, і гэта не заставалася незаўважаным. У часы "ваяўнічага атэізму" было зразумела, што доўга пабыць студэнтам мне не дадуць. Неяк у адной з газет якраз пра мяне і было: як так — будучы выхавацель камуністычнай моладзі ходзіць у касцёл!.. Каб нікому не ствараць праблем, пасля першага курса я забраў дакументы.

Год адпрацаваў у будаўнічай арганізацыі ў Гродне, а пасля паехаў паступаць у Маскоўскі інжынерна-фізічны інстытут, дзе асаблівая ўвага звярталася на вывучэнне ядзернай фізікі. У тыя часы гэта была закрытая навучальная ўстанова. Дакументы ў мяне там нават не прынялі, спаслаўшыся на тое, што я іх позна прывёз, хоць насамрэч гэта быў апошні дзень падачы дакументаў.

Тады паехаў паступаць у Ленінградскі політэхнічны інстытут на факультэт энергетычнага машынабудавання. Там мой першы дзень таксама мог стаць апошнім. Падаючы дакументы, я выпадкова дастаў разам з дакументамі нацельны медалік. Але жанчына з прыёмнай камісіі мне яго вярнула са словамі: "Вазьміце і нікому не паказвайце".

### 3.Распрацаваў сваю методыку падрыхтоўкі да іспытаў

— Вучыўся я заўсёды добра *(атрымаў чырвоны дыплом Ленінградскага політэхнічнага інстытута. —* **Заўв. аўт.**). Таму перад іспытамі калі і перажываў, то толькі праз тое, што хацеў атрымаць 5, а не 4. Мне плацілі павышаную стыпендыю, і тая даплата ў 10 рублёў (у тыя часы для студэнта вялікія грошы) была для мяне добрым стымулам.

Вучыцца я любіў, навука давалася лёгка. Нас такіх на курсе было некалькі чалавек. Вось мы і прыдумалі свой метад падрыхтоўкі да экзаменаў: першыя дні кожны вучыць сам, а за дзень да экзамена збіраемся разам і цягнем адзін перад адным білеты, "мадэлюючы" іспыт. Ты адказваеш першы білет, ты — другі і г.д. Па чарзе мы паўтаралі ўсе білеты. Методыка дзейсная, і пасля я перанёс яе нават у семінарыю, калі там вучыўся.

### 4.Здаваў экзамены датэрмінова

— Здаваць экзамены ў нас можна было датэрмінова. Гэта дазвалялася. Проста прыходзіш да выкладчыка і кажаш: экзамен 20-га, а я хачу здаць 15-га, ці можна прыйсці? Адзін згаджаўся, другі не згаджаўся. І калі сесія завяршалася дзесьці на пачатку студзеня, то я ехаў дадому ўжо на тыдзень раней. Аднагрупнікі рэагавалі цалкам нармальна — я не адзін так здаваў. Каб лепш запаміналася, я рабіў кароткія канспекты. І калі мы садзіліся за дзень да экзамена ўсё паўтараць, такія канспекты ў мяне ўжо былі. Гэта свайго роду шпаргалка, але на іспыт я яе не браў. Вучыць па такім канспекце лягчэй.

### 5.Гуляў за зборную факультэта ў футбол

— Спорт я заўжды любіў. Але ўніверсітэцкіх заняткаў спортам мне было мала. Для сябе я хадзіў у басейн, зімой — на лыжах. Гуляў у футбол і ў хакей. Набегаешся — і ў галаву навука лепш лезе. У Расіі была адмысловая культура заняткаў спортам. Асабліва папулярны быў футбол. Каманда ўніверсітэта была настолькі моцнай, што я нават не ўвайшоў у яе склад, хоць і вельмі хацеў. А вось за зборную факультэта гуляў.

### 6.Палюбіў Ленінград за рэлігійную талерантнасць

— Ленінград — горад не толькі трох рэвалюцый, але і рэлігійнай талерантнасці. У гэтым я пераконваўся не аднойчы, але адзін выпадак у памяці і дагэтуль. Аднойчы 25 снежня нам паставілі экзамен. Я вырашыў, што ў касцёл паеду пасля іспыту. І вось я стаю ў калідоры разам з аднагрупнікамі, заняўшы чаргу на экзамен, а наш выкладчык, які некуды выходзіў, вяртаючыся, падыходзіць да мяне: ідзі цягні білет.

Я пачаў пярэчыць: маўляў, тут чарга, ды і тое, што я добра вучуся, не дае мне права ісці перад астатнімі. Але ён мне зноў: цягні білет і здавай экзамен, бо сёння 25 снежня і ў цябе няма часу (*усміхаецца.* — **Заўв. аўт.**). У Ленінградзе мне ніхто ніколі слова не сказаў, што я хаджу ў касцёл, чаго ў Гродне ў свой час, на жаль, не было.

### 7.Салодкае разлюбіў пасля вяселля аднагрупнікаў

— На курсе чацвёртым-пятым некаторыя з маіх аднакурснікаў пачалі актыўна выходзіць замуж і жаніцца. Некаторыя сем'і выходзілі нават з адной групы. Была такая пара і ў маёй групе. Аднойчы, будучы запрошаным да іх на святкаванне шлюбу, я ішоў якраз з касцёла. Па дарозе ў кафэ "Север" на Неўскім праспекце набыў торт — як бы віншаванне ад мяне (*усміхаецца.* — **Заўв. аўт.**). Купіў, глянуў — торт падаўся занадта малым. Я вярнуўся і купіў яшчэ адзін торт. Так з двума тартамі і прыйшоў. І яшчэ пажартаваў: адзін торт вам, а другі мне. І што думаеце: прымусілі мяне з'есці амаль увесь торт. Ахвоту на салодкае мне адбіла надоўга, але тады я зразумеў: трымай свой язык (*смяецца.* — **Заўв. аўт**.).

### 8.Мроіў пра аспірантуру і нават здаў кандыдацкія мінімумы

— Я вучыўся на энергамашы — фізіка, гідратурбіны, гідрааўтаматыка і ўсё такое. Навука мяне так захапляла, што часу думаць пра дзяўчат асабліва і не было. Я зачытваўся літаратурай пра ядзерную фізіку, асабліва на першых курсах. Калі б тады ў мяне хто спытаў: "Слухай, хлопча, ці палез бы ты ў рэактар у імя навукі?" — я палез бы, настолькі я гэтым усім жыў. Неяк пра сям'ю я тады не задумваўся. Цешыўся думкай, што, можа, як пазней. Я хацеў скончыць інстытут і ісці ў аспірантуру. У тыя часы ў аспірантуру было вельмі цяжка паступіць. Але я гэтага так хацеў, што пасля, працуючы па размеркаванні ў Вільнюсе, я нават паздаваў кандыдацкія мінімумы...

### 9.Літоўскую мову вывучыў за адзін семестр

— Калі я паступаў у семінарыю ў Каўнасе, то яшчэ не ведаў, што навучанне будзе давацца так цяжка. Справа ў тым, што ўсе прадметы выкладаліся па-літоўску, а мову я ведаў дрэнна. З дазволу рэктара я адказваў на іншых мовах, але абяцаў, што за год літоўскую мову я вывучу. І я змог. Пад канец першага семестра я ўжо здаваў іспыты па-літоўску. Бо, калі мову чуеш штодня — малітвы, лекцыі, Святое Пісанне, калі ўся літаратура на гэтай мове, то і вучыць яе нашмат лягчэй. Трэба толькі старацца. Затым па-літоўску я пісаў і ліцэнцыят, і дактарат.

### 10.Рабіў прагнозы на футбольныя матчы праз тэорыю вялікіх лічбаў

— Аднойчы, калі ішоў чэмпіянат свету па футболе і паміж сабой гулялі Італія і Савецкі Саюз, я бавіўся з арыфмометрам. Мы тады вывучалі тэорыю вялікіх лічбаў і разам з сябрам, які быў побач, узялі статыстыку апошніх 10 матчаў і пачалі складаць-аднімаць, каб вылічыць у выніку, хто выйграе. У мяне выйшла, што 4:3 — выйграе Італія. У выніку матч скончыўся 0:0, але па пенальці Італія выйграла. Мама мія! Да канца чэмпіянату я не меў спакою — усе ішлі да мяне і казалі: лічы, хто выйграе.

**Падрыхтаваў Ілля ЛАПАТО.**

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

# Будет ли новое дело о дискредитации Республики Беларусь?

***В Новополоцке правоохранители усиленно ищут криминал в действиях основателя сайта freeregion.info Вадима Дроздова.***

Вадим Дроздов уже несколько лет живет за границей, но к событиям в Беларуси он неравнодушен. Поэтому основал независимый интернет-ресурс freeregion.info, где содержатся материалы о жизни в современной Беларуси, а также есть страница, на которой ведут свои блоги известные в витебском регионе люди. У сайта имеются постоянные читатели, некоторые из них присылают для публикации подлинные документы, разглашение которых, видимо, не нравится властям. Также у Вадима Дроздова есть идея создать общественное объединение "Свободный регион".

Но, как и следовало ожидать, данная инициатива не осталась незамеченной местной властью.

От адвоката, нанятого родственниками, стало известно, что Новополоцкий ГОВД в апреле 2014 года начал проверку относительно деятельности Вадима Дроздова в качестве основателя сайта freeregion.info и сторонника идеи создать общественное объединение "Свободный регион". В мае сотрудники милиции приходили в квартиру, где по настоящее время прописан Вадим Дроздов. Сейчас в ней проживает его отец. Расспрашивали о сыне. Потом ходили по соседям, расспрашивали, давно ли его видели и что могут о нем рассказать.

Какие выводы сделали новополоцкие милиционеры, пока остается тайной.

По информации, полученной от адвоката, сроки проверки несколько раз продлевались. Так, например, 16 июня 2014 года старший помощник прокурора **Сергей Шилько** дал указание начальнику Новополоцкого ГОВД подполковнику милиции **Дмитрию Резенкову** о дополнительной проверке. Так как, по мнению старшего помощника прокурора, проверка проведена неполно и поверхностно, не все доводы изучены и проверены, он указал на необходимость выполнить следующие проверочные мероприятия:

— принять меры к установлению местонахождения и опросу В.А.Дроздова; проверить доводы его родственников относительно выезда и пребывания В.А.Дроздова за границей; приобщить к материалу проверки соответствующие документы;

— провести проверочные мероприятия, направленные на установление принадлежности сайта "Свободный регион" к конкретным лицам, порядка и обстоятельства его создания, регистрации;

— установить лиц, разместивших статью о выборах на сайте "Свободный регион";

— проанализировать иные статьи, размещенные на сайте "Свободный регион", которые могут дискредитировать Республику Беларусь;

— установить место создания и деятельности общественного объединения "Свободный регион"; в случае создания его и осуществления им деятельности в г.Новополоцке — проверить законность деятельности общественного объединения "Свободный регион", приобщить к материалу проверки документы, подтверждающие факт его регистрации в установленном законом порядке, а также правомерность его деятельности;

— по результатам дополнительной проверки принять законное и обоснованное решение в порядке ст.174 УПК Республики Беларусь на предмет наличия в действиях В.А.Дроздова составов преступлений, предусмотренных стст. 193-1, 369-1 УК Республики Беларусь (заметим, что данные статьи — это "Действия от имени незарегистрированной организации" и "Дискредитация Республики Беларусь. — **Авт.**);

— также в ходе проверки необходимо выполнить соответствующие проверочные мероприятия, после чего принять законное и обоснованное решение на предмет наличия в действиях В.А.Дроздова состава административного правонарушения, предусмотренного ст.23.34 КоАП Республики Беларусь (нарушение порядка организации или проведения массовых мероприятий).

Чтобы выяснить, что установлено в ходе проверок и каковы их результаты, мать Вадима Дроздова Валентина Ивановна 12 сентября написала заявление на имя начальника Новополоцкого ГОВД подполковника милиции **Дмитрия Резенкова** с просьбой сообщить ей, что установлено в ходе проверок и каковы их результаты.

25 сентября Валентина Ивановна получила письменный ответ из Новополоцкого ГОВД. В нем заместитель начальника Новополоцкого ГОВД **Владимир Быков** сообщил, что ее заявление оставлено без рассмотрения, так как к обращениям, подаваемым представителями заявителей, должны прилагаться документы, подтверждающие их полномочия. А предоставленная копия паспорта и свидетельство о рождении сына таковыми документами не являются...

**Владимир ЖИГУЛОВ.**




**Вадим Дроздов убежден: интерес к его персоне вызван тем, что публикации на сайте freeregion.info поднимают те проблемы, которые местным властям не хотелось бы предавать широкой огласке…**

КОНКУРС

# Пакуль жывуць сведкі…

Конкурс для школьнікаў "1939 год у памяці жыхароў Беларусі" быў абвешчаны ў верасні мінулага года. Арганізатары паставілі перад удзельнікамі задачу знайсці сведак аб'яднання Заходняй Беларусі і БССР у верасні 1939 года, апытаць іх, запісаць успаміны і на гэтай падставе зрабіць даследчыцкую працу.

Уручэнне ўзнагарод пераможцам стала часткай Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Верасень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі", што праходзіла 26—27 верасня ў Мінску.

І канферэнцыя, і конкурс былі прымеркаваны да 75-годдзя са дня, калі БССР далучыла да сябе землі Заходняй Беларусі, — падзеі ў беларускай гісторыі настолькі важнай, наколькі і неадназначнай.

Дагэтуль 17 верасня 1939 года выклікае дыскусіі сярод гісторыкаў і даследчыкаў. А яшчэ — працягвае жыць з усёй сваёй неадназначнасцю ў памяці жыхароў былога і цяперашняга памежжа. У савецкай гістарыяграфіі гэтая падзея падавалася як адназначная перамога і радасць. Мы ўсе бачылі карцінкі, як жыхары Заходняй Беларусі — "панскай Польшчы" — з кветкамі вітаюць савецкіх салдат. Нас доўгі час пераконвалі, што гэта было вызваленне. Але сведкі тых падзей распавядаюць часта нешта зусім іншае. "Нас аб'ядналі хто?" — паставіў пытанне ў сваім выступленні на канферэнцыі **Рыгор Лазько,** доктар гістарычных навук, прафесар з Гомеля. І адказаў словамі сведак падзей: "Чужаніцы..."

## Ніводнай працы з Мінска

На конкурс было даслана ўсяго дзесяць прац. Сярод аўтараў — жыхары Віцебска, Жодзіна, Вілейкі, Стаўбцоў, Івацэвічаў, вёсак Брэсцкай вобласці. Не было ніводнай працы з Мінска.

Першае месца заняла праца **Паліны Гурыновіч** з аграгарадка "Белавежскі" Камянецкага раёна пад назвай "Заходняя Беларусь у 1921—1939 гг. і ўз'яднанне з БССР ва ўспамінах жыхароў Камянеччыны". У працы прыведзены ўспаміны двух жыхароў Камянецкага раёна — Веры Дацкевіч і Пятра Селюка — пра жыццё ў Заходняй Беларусі ў БССР. Да працы дзяўчыну заахвоціла маці, Людміла Гурыновіч, настаўніца гісторыі Белавежскай сярэдняй школы. Цікавасць да тэмы "аб'яднання" ўзнікла яшчэ і таму, што яно закранула некалі і саму сям'ю Гурыновічаў.

Паліна піша ў сваёй працы: "Словы "Заходняя Беларусь" прагучалі і ў дачыненні да маёй сям'і. Так, першы муж маёй прапрабабкі Барбары Андрэй пайшоў з-пад Іванава на ўсход на заробкі, а тут прайшла мяжа, і ён не вярнуўся (гэта было перад Рыжскім мірам). А другая прапрабабка Аляксандра мела "пры паляках" зямлю, якую паспяхова апрацоўвала, хоць і была ўдавой з дзвюма дачкамі. І вельмі непрыязна ставілася да "першых Саветаў".

Праца-пераможца з запісанымі ўспамінамі выбівае яшчэ адзін камень з хісткага падмурку афіцыйнай радасна-ружовай карціны аб'яднання Заходняй Беларусі і БССР. З успамінаў Веры Дацкевіч, якая нарадзілася ў 1920 годзе, мы даведваемся, што дабрабытам Заходняй Беларусі былі здзіўлены нават салдаты-"вызваліцелі": "*Мы пришли, и что мы им лучшего принесли?.. Там же ж был голод, у той Расеи, о, боже мой, боже мой!*"

Паліна робіць выснову, што "падзеі 1939 года на тэрыторыі Заходняй Беларусі да гэтага часу з'яўляюцца прадметам спрэчак. І даследаванні вуснай гісторыі могуць дапамагчы прыхільнікам палярных поглядаў знайсці агульныя падыходы да праблемы. Успаміны відавочцаў даюць магчымасць больш ясна ўявіць той час, які вывучаецца на ўроках гісторыі, убачыць гісторыю сапраўднай, не кніжнай".



## "Маладыя людзі павінны ўмець крытычна ацэньваць гісторыю"

З Палінай пагаджаюцца гісторыкі і арганізатары конкурсу, кажучы, што праўду пра падзеі 1939 года трэба найперш шукаць не ў падручніках, не ў афіцыйнай гістарыяграфіі, а ва ўспамінах жывых сведак. Да гэтага пошуку і хацелі заахвоціць школьнікаў.

*"Такія конкурсы, як гэты, вельмі важныя, бо яны падштурхоўваюць маладых людзей да ўласных даследаванняў, да фарміравання свайго погляду на гісторыю,* — зазначыла на пачатку цырымоніі ўзнагароджання прадстаўніца міжнароднай арганізацыі па правядзенні гістарычных конкурсаў для моладзі з Еўропы "EUSTORY" **Аліцыя Глузэ.** — *Бо маладыя людзі павінны не проста вывучаць гісторыю з падручнікаў, нешта запамінаць, але і ўмець крытычна ацэньваць гістарычныя падзеі, аналізаваць іх".*

Спадарыня Глузэ нагадала старую, але заўсёды актуальную ісціну пра тое, што таму, хто не памятае гісторыі і не аналізуе яе, наканавана паўтараць яе. І тады мы і трапляем у вір войнаў, канфліктаў, нянавісці. І яскравыя доказы гэтаму мы бачым сёння, калі зноў зусім побач вайна.

Пра важнасць вуснай гісторыі і таго, што ёй займаюцца менавіта школьнікі, сказала і сябра грамадскага аб'яднання "Дыярыюш" **Ірына Коваль:**

*"Тое, што гэты конкурс адбыўся, вельмі знакава і важна для нашай моладзі. Бо прыйсці сёння з недзяржаўным конкурсам у нашы школы амаль немагчыма. Таму мы рады, што атрымалі хоць дзесяць прац. Іх і не павінна быць шмат. Гэта інтэлектуальная работа, даследчыцкая, і яна ніяк не можа быць масавым прадуктам".*

Спадарыня Ірына зазначыла, што збор успамінаў сведак — гэта наша зброя супраць спроб фальсіфікаваць і перапісаць гісторыю. А праца гісторыка сёння хоць і непрыбытковая і часам не патрэбная дзяржаве, але важная, бо *"складае падмурак нашай будучыні, нашага дэмакратычнага грамадства"*.

## Алесь СМАЛЯНЧУК: «Гісторыя памірае там, дзе з'яўляецца тлустая кропка. Як у нашых падручніках»

Алесь Смалянчук, гісторык, старшыня аргкамітэта конкурсу, зазначыў, што арганізатары перш за ўсё хацелі звярнуць увагу школьнікаў і настаўнікаў на вялікія магчымасці вуснай гісторыі, на неабходнасць запісу ўспамінаў, пакуль сведкі падзей яшчэ з намі.

Тэматыка 1939 года была падказана 75-гадовым юбілеем. Але, лічыць Алесь Смалянчук, і без круглай даты на гэтую падзею варта звяртаць больш увагі і працягваць дакопвацца да сутнасці таго, што адбылося:

*"17 верасня я спецыяльна пайшоў і купіў усе цэнтральныя газеты, паглядзеў на сайты — і ніхто не ўзгадаў гэтую падзею. У падручніку школьным — жахлівая карціна падаецца, абсалютна савецкая інтэрпрэтацыя, якая не ўлічвае ўсяго значэння нацыянальнага ўз'яднання беларусаў",* — кажа гісторык.

Пераможцы конкурсу атрымаюць магчымасць далучыцца да руху міжнародных маладзёжных летнікаў па вуснай гісторыі. Беларускі архіў вуснай гісторыі плануе і далей праводзіць падобныя конкурсы, зазначыў Алесь Смалянчук:

*"Мяне радуе, што знайшліся маладыя людзі, якія захацелі паглядзець на гісторыю інакш, чым яна падаецца ў падручніках, сваім позіркам, скласці сваё меркаванне. Бо гісторыя насамрэч вывучаецца не па падручніках. У гісторыі не можа быць нейкай кропкі. Кожнае пакаленне ставіць свае пытанні да мінулага. Гісторыя памірае, калі з'яўляецца тлустая кропка, якую і ставяць нашы падручнікі. Бо там як усё падаецца аўтарамі? Я так сказаў, напісаў, значыць, менавіта так і не інакш усё і было. А гісторык, даследчык нараджаецца тады, калі задае пытанне: а раптам усё было хоць троху, але інакш? Менавіта да такіх пытанняў штурхае даследаванне вуснай гісторыі".*

Пераможцы конкурсу для школьнікаў "1939 год у памяці жыхароў Беларусі" атрымалі ўзнагароды ад Беларускага архіва вуснай гісторыі — арганізатара акцыі

**Марына МАЎЧАНАВА.**

ЭКАНОМІКА

# Не хапае грошыкаў

*Міністэрства фінансаў Беларусі адзначае нізкі ўзровень выканання бюджэту ў першым паўгоддзі 2014 года і таму лічыць неабходным правесці карэкціроўку яго расходнай часткі. Прасцей кажучы, зноў прыйдзецца зацягваць паясы.*

*"Аналіз паступленняў сведчыць пра нізкі ўзровень выканання зацверджанага бюджэту, што запатрабуе ўдакладнення паказчыкаў рэспубліканскага бюджэту ў частцы аптымізацыі і скарачэння выдаткаў",* — гаворыцца ў аглядзе аб выкананні рэспубліканскага бюджэту ў першым паўгоддзі бягучага года, падрыхтаваным спецыялістамі Мінфіна, які паступіў у распараджэнне агенцтва "Інтэрфакс-Захад".

Як адзначаецца ў матэрыялах Мінфіна, у бягучым годзе істотна знізіліся паступленні ў рэспубліканскі бюджэт ад шэрагу падаткаў. У прыватнасці, падатку на прыбытак у студзені—чэрвені паступіла толькі 31,2% ад гадавога плана. Іншымі словамі, няма ў прадпрыемстваў запланаваных прыбыткаў — няма і запланаваных падаткаў.

Таксама знізіліся паступленні па падатку ад знешнеэканамічнай дзейнасці, якія зменшыліся за студзень—чэрвень на 28,6% у параўнанні з I паўгоддзем 2013 года.

Мінфін таксама звяртае ўвагу, што на ўзровень даходаў бюджэту негатыўна паўплывала пагаршэнне дынамікі знешняга гандлю Беларусі і Расіі, што прывяло да скарачэння ўвазных мытных пошлін у рамках механізму іх размеркавання паміж членамі Мытнага саюза, што пералічваюцца нашай краіне Расіяй. Так, на 1 ліпеня 2014 года засталіся неаплачанымі аплатныя дакументы на 2 трыльёны беларускіх рублёў.

ПАДЛІЧЫЛІ...

# *Інфляцыя з'ядае пенсіі*

*У Беларусі рэальны памер прызначаных пенсій, разлічаных з улікам інфляцыі на тавары і паслугі, у жніўні 2014 года ў параўнанні з жніўнем папярэдняга года знізіўся на 0,9%.*

Усяго ў жніўні сярэдні памер прызначаных пенсій склаў 2.512.000 рублёў, у тым ліку па ўзросце — 2,597 мільёна, па інваліднасці — 2,296 мільёна, па прычыне страты карміцеля — 1,689 мільёна, сацыяльных пенсій — 1,227 мільёна.

Нагадаем, што ў жніўні сярэдні заробак беларусаў таксама знізіўся. Ён склаў 6,36 мільёна рублёў, што на 1,4% менш, чым у ліпені.

ШЧЫРА

У народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча сёння Дзень народзінаў!

Віншуем Вас, Ніл Сымонавіч, жадаем здароўя, поспехаў, добрых надзей, чакаем Вашых твораў!

Дзякуй Вам за новыя вершы!

Упэўнены, да віншавання далучацца многія беларусы.

**Валерый Казіміравіч МЕНДЫК і яго сын Юрый.**

# З Днём народзінаў, дарагі Чалавек!

Заходзіць у рэдакцыю даўні сябра "Народнай Волі" Яўген Стасевіч, трымае ў руках невялікую кніжку.

*— Вось, толькі-толькі з друкарні — можа, зацікавіць? Ды не палохайцеся,* — дадаў з усмешкай, — *не свае опусы прабіваю да шырокага чытача (маіх жа магчымасцяў ледзь на 150 асобнікаў нашкрэблася). А сабраў я пад гэтай вокладкай асабліва ўпадабаныя мною радкі з твораў народнага паэта Беларусі Ніла Сымонавіча Гілевіча.*

Радкі гэтыя афарыстычныя: надзвычай выразныя, трапныя, пададзеныя ў сціслай форме. У іх — згустак роздуму творцы-патрыёта аб знітаванасці з лёсам роднай зямлі, адказнасці за ўсвядомлены жыццёвы выбар, перакананасць у кожным слове, кроку, памкненні. Таму так і просяцца ў душу, запамінаюцца.

*— Напэўна, многае з таго, што нагадваю ў сабранай нізцы афарыстычных радкоў Ніла Гілевіча пад агульнай назвай з яго ных слоў* ***"ШЧАСЦЕ ХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ Ў ПАРЫ З ГОРАМ",*** *добра вядома і палюбілася шмат каму. Многія могуць падоўжыць гэтую нізку, дадаць да яе сваё "самае-самае", што сталася ўрокам жыцця, крыніцай высакародных пачуццяў,* — працягваў спадар Яўген, які выбраў паэтычныя выказванні Ніла Гілевіча. — *Дарэчы, 30 верасня ў любімага паэта — Дзень народзінаў. Шчырае яму віншаванне і нізкі паклон за творчы і жыццёвы подзвіг, адданае слугаванне маці-Беларусі ўсімі сіламі магутнага таленту і светлай душы! Захапленне творцу, які і зараз, насуперак цяжару пражытага, у свае ўжо 83 гады не складае вострага пяра, радуе нас новымі і новымі творамі — па-ранейшаму гарачымі, нераўнадушнымі вершамі і публіцыстыкай. Мы іх нярэдка бачым на старонках "Народнай Волі". Пераконваемся зноў і зноў: сапраўдны паэт заўжды дзеліць з народам агульныя беды і надзеі, зычыць шчаслівай будучыні. А мы зычым яму нязломнага здароўя і моцы духу ў несупыннай працы для людзей, Радзімы!*

## Ад рэдакцыі

Калектыў "Народнай Волі" ўсёй душой далучаецца да сардэчных пажаданняў шчырага прыхільніка творчасці Ніла Сымонавіча Гілевіча і ганарыцца тым, што народны паэт не абыходзіць увагай нашу газету, прапануе новыя і новыя здабыткі свайго таленту на нашы старонкі. Гэтыя іскрынкі-залацінкі становяцца ўкрасай газеты. Хай доўжыцца трывалае наша супрацоўніцтва і надалей, вельмішаноўны Ніл Сымонавіч! З Днём народзінаў, дарагі Чалавек! Спадзяёмся разам сустрэць і адсвяткаваць Ваш 100-гадовы юбілей.

## *Шчасце ходзіць толькі ў пары з горам*

### *Афарыстычныя радкі з паэтычных твораў Ніла Гілевіча, выбраныя Яўгенам Стасевічам*

*У век рэнегацтва*
*І гібельнай здрады, калі*
*Зрываюцца душы,*
*Не справіўшыся з ачмурэннем,*
*Адзіны ёсць выбар —*
*Трымацца бацькоўскай зямлі,*
*Як дрэва карэннем.*
***
*Няма Радзімы ў злыдняў хіжых*
*І Маці ў нелюдзяў — няма.*
***
*Шлях адзін: не ступай у чужыя сляды*
*На бацькоўскай зямлі запаветнай.*
***
*Нібы сталі ўсе сляпымі:*
*Гэй, наперад — гэй, назад!*
***
*А сваё? А хто мы самі?*
*Што мы — з роспачы-бяды*
*Паўтыкаліся насамі*
*У суседскія зады?*
***
*Калі ёсць народ, то мова*
*Быць павінна, бо яна*
*Ёсць яго самаахова,*
*Без чаго яму — хана.*
***
*Ах, Расія ты, Расея,*
*Ці не чула ў гамане:*
*"Хто бяздумна вецер сее —*
*Буру страшную пажне!"?*
***
*Да чаго ж у нас пагрузлі*
*У халуйскі глей чыны!*
*Адраджэння Беларусі*
*Горш баяцца, як чумы!*
***
*Шануйце хлеб: у ім цяпло*
*Душы, зямлі і сонца!*
***
*Так, людзі на жыццё глядзяць па-рознаму:*
*Адзін праз сэрца, а другі праз пуп.*
***
*Найбольшы страх яго трасе,*
*Хто наганяе страх на іншых.*
***
*Сумленню з подласцю ў суполцы*
*Ганебна мераць шлях стары:*
*Сумленне рвецца ўвысь, да сонца,*
*А подласць — шчэрыцца ў нары.*
***
*Рука ў руку з хлуснёю*
*Праўда*
*Не пойдзе побач — хоць звяжы!*
*Бо праўда свет кіруе ў заўтра,*
*Хлусня — да гібельнай мяжы.*
***
*Куды ж і з кім па безгалоўю*
*Ісці Табе — праз буралом?*
*З любоўю, братачка, з любоўю!*
*З сумленнем,*
*З праўдай*
*І з дабром!*
***
*Быў час, быў век, была эпоха,*
*Калі, наеўшыся ў адвал,*
*Сёй-той прыкінуў, што панчоха —*
*Зусім не кепскі ідэал.*
***
*Не адракаўся і не адракуся!*
*Запомніце: пярэваратнем я*
*Павек не скінуся. Душа мая*
*І ў небе будзе трызніць Беларуссю.*
***
*Мой час наперадзе,*
*Яшчэ ён прыйдзе —*
*Мой запаветны беларускі час!*
***
*Равуць вятры, грымяць грамы,*
*Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,*
*І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы*
*Да Беларусі!..*

РЕБУС

## *Случайно ли Александр Лукашенко награжден орденом Александра Невского?*

*По сообщениям СМИ, президента Республики Беларусь Александра Лукашенко в связи с его 60-летием наградил президент России В.Путин.*

В принципе, ничего необычного в этом акте нет. Многих глав иностранных государств награждают по поводу и без повода правители других государств. Это как бы общепринятая практика, даже, я сказал бы, акт ритуальный.

Но вот сама награда вызывает определенные вопросы, по крайней мере у меня.

Орден Александра Невского?

Безусловно, согласно российской мифологии, этот князь — легендарная личность, великий полководец, даже возведен в число святых, а в 2008 году в результате масштабного опроса россиян, по предложению московского патриарха Кирилла, был выбран "именем России".

Однако в исторической науке нет однозначной положительной оценки деятельности Александра Невского.

Некоторые историки вообще считают вымыслом его участие в событиях на Неве и Чудском озере в связи с путаницей с датой рождения Александра Ярославича. Даже полагают, что возвеличение Александра Невского понадобилось московским церковникам, чтобы оттенить особый евразийский вектор развития России (Л.Гумилев).

Известные российские историки — академик РАН В.Янин, И.Данилевский, С.Смирнов — считают Александра Невского коллаборационистом, жестоким деспотом, который ради личной власти не останавливался ни перед чем, в то же время пресмыкался перед хозяином, ордынским ханом. Действительно, Александр получил право на владимирский и новгородский стол из рук хана Батыя, стал атаманом — главным сборщиком налогов для Орды на Владимирской и Новгородской землях, зарекомендовал себя преданным союзником Золотой Орды.

Вот что пишет академик Янин: "Александр Невский, заключив союз с Ордой, подчинил Новгород ордынскому влиянию. Он распространил татарскую власть на Новгород, который никогда не был завоеван татарами. Причем выкалывал глаза несогласным новгородцам, и много за ним грехов всяких".

Известны факты предательства Александром своего родного брата Алексея, закончившегося смертью последнего, беспощадного подавления волнений в Пскове из-за непосильных налогов, когда людей сотнями ослепляли и отрезали им языки.

Конечно, дело самих россиян разбираться с оценкой своих исторических деятелей. Но нам дорог имидж нашей родной Беларуси.

Неужели Путин своей наградой отмечает нашего президента как коллаборациониста?

Не этот ли намек скрывается в наименовании награды?

Мне, как гражданину Беларуси, такие намеки крайне неприятны.

**Эдуард ВАСИЛЬЕВ, гражданин Республики Беларусь.**

ПАМЯТЬ

# Деревня праведников

Бывают встречи, после которых снова и снова возвращаешься к извечному: что есть красота человеческая? Именно об этом думалось после поездки зимой 1992-го в деревню Поречье Пуховичского района Минской области. В 1943-м жители этой деревни приютили 40(!) еврейских детей, бежавших из Минского гетто. Партизаны отряда имени Кутузова 2-й Минской партизанской бригады распределили их по домам. Селяне знали: за укрывательство евреев — расстрел. Однако среди них не нашлось ни одного малодушного или доносчика.

Узнав, что бывшие узники гетто Фрида Рейзман, Майя Крапина и три Михаила — Пеккер, Шапиро и Новодворский хотят навестить своих спасителей, я поехал вместе с ними. В автобусе также — сотрудники Белорусского государственного музея истории Великой Отечественной войны (запомнилась Раиса Черноглазова) и один из лидеров Белорусского еврейского объединения Яков Басин.

Еще в автобусе Фрида и Майя рассказывали...

Дети гетто — особые дети. Война отняла у них детство. Довоенная игра в прятки стала для этих ребятишек уже не игрой, а способом выживания. Не найдут — можно прожить еще день. Найдут — значит, смерть. Они уже осознали ужас небытия.

Едва на улице появлялись немцы или полицаи, я, как мышка, бегу в малину... *(Малина в просторечии — укрытие.)*

Фриде шел тогда восьмой год. Детская память навечно впечатала страшные будни гетто. В "малинах" прятались целыми семьями. В некоторых можно было только стоять. Какие трагедии разыгрывались в этих самодельных убежищах — тут дрогнуло бы и шекспировское перо. Заплакал грудной ребенок во время облавы, мать ему затыкает рот. Малыш задыхается... А как передать ужас семилетней девочки, когда из щелей "малины" видит, как каратели расправляются с попавшими в их руки детьми! На них не тратили патроны. Разбивали головы о стены или переламывали через колено позвоночник. Бывало и так, что ребенка подбрасывали вверх и в воздухе ловили на штыки. Для фашистских садистов это было забавой.

... — Из гетто выходили группами по 15—20 человек, — вспоминает Майя Крапина. — Нашу группу вел мой брат Иосиф. Было ему тринадцать лет, мне — восемь. А выглядела я лет на пять. Худышка: кожа и кости — в чем только душа держалась! Родители наши погибли.

Бежали ночью. Меня несли на плечах. Пробрались к вокзалу и спрятались в баках. Иосиф уже не впервые выводил детей из гетто. Знал, что в лесу возле деревни Поречье — партизаны. Шли туда ночами. За три или четыре ночи, сейчас уже не помню точно, дошли.

...Наш автобус остановился возле неказистой хатки, примерно такой же, как и во всем Поречье. Хозяйка встретила нас во дворе. Крапина обняла свою спасительницу. Анастасии Зиновьевне Хурс было тогда под семьдесят, но выглядела моложе. Молодило доброе и простодушное лицо. Рассказ ее незатейлив, как она сама.

— Ну як оно было? Привели ко мне малую. Божечки ты мой, худенькая, ножки, как былиночки. На них ботики были... Ага, вспомнила: партизан Сосновский привел. Надо, говорит, доглядать. Во многие хаты тогда взяли этих малых. Ну и доглядали. А як же! Немцы придут — мы с малыми утякаем в лес. Что делать, раз трэба нам **марафонить.**

Майя поясняет: марафонить — значит скрываться в лесу день, два — сколько потребуется.

— Вы знали, что это еврейские дети? — спросил я.

— А як же! Як же бросить их на погибель!

Анастасия Зиновьевна обняла Крапину.

— Майечка, дитятка ты моя!...

И снова воспоминания. И слезы. Так много хочется сказать, а неумолимое время уже торопит: надо успеть и по другим адресам.

В трех километрах от Поречья приткнулась к лесу крохотная деревенька Святое — всего девять дворов. В ней стоял штаб партизанского отряда.

К нам навстречу вышла сухонькая старушка — Пелагея Андреевна Шашок. Это у нее с осени 1943-го и до самого освобождения прожила Фрида. Хата, по ее словам, изменилась мало. Разве что вместо земляных полов появились деревянные да исчезли вдоль стен полати, на которых спали партизаны. А печь все та же. И с лежанки, прикрытой занавеской, выглядывает котенок.

Фрида Рейзман подошла к печи.

— Как мало тут изменилось! Смотрите, вот и ниша... В ней лучина горела...

Она трогала печь, стены, словно хотела вобрать в себя весь этот колорит из того, военного времени. И рассказывала нам про свою Паланю — какой это душевный человек.

Бабка Паланя доживала свой век одна. Муж умер еще до войны. Сын Василий поселился в Поречье. Он старше Фриды лет на восемь, но она продолжала звать его Васькой. От такого панибратства он не в обиде. Фрида была тогда ему как младшая сестренка. Как мог, опекал ее, не давал никому в обиду.

Эх, годы, годы... Вот уже и внуки у обоих, а здесь они снова дети. Дети войны.

Жилая площадь у бабки Палани — одна комната. Деревянная скамья. Электрическая лампочка без абажура. На стене — дешевенький коврик "Три богатыря"... Вся жизнь в этой хате.

Она вышла нас провожать, и хотя на дворе было морозно, стояла в одной кофте, маленькая, такая беззащитная, что сердце защемило.

— Дай Бог вам здоровья, — говорили мы ей на прощанье.

Автобус уже тронулся, а она все стояла. Святой человек из деревни Святое.

И снова мы в Поречье. Михаил Шапиро ведет нас в "свою" хату. Хозяева — Филимон Михайлович Шашок и его жена Федора Зиновьевна — были дома. Шапиро снял шапку.

— Помните меня?

Его узнали сразу же: — Миша!

В этой семье было трое маленьких ребятишек. Миша стал четвертым. Как Федора Зиновьевна сумела прокормить такую ораву, делясь последним со своим приемышем, это уже особый разговор.

Можно себе представить, каково было жителям этой деревни в то лютое время выхаживать внезапно оказавшихся у них еврейских детей, истощенных голодом, вшивых, чесоточных, подавленных ужасами гетто. И не просто выхаживать, а в буквальном смысле этого слова спасать, рискуя собой, своими семьями.

Тогда не было в ходу слово "милосердие". Но эти белорусские женщины творили его день за днем, вовсе не думая, что спустя десятилетия то, что они делали тогда, назовут подвигом. Их нравственный выбор был короток и прост: "А як же!"

Через семь лет в августе 1999-го снова приехал туда вместе с Фридой Рейзман, Майей Крапиной и ее мужем Альбертом. Уже не было в живых спасителей еврейских детей, праведников народов мира Пелагеи Андреевны Шашок, Федоры Зиновьевны Шашок и Анастасии Зиновьевны Хурс. Ушел из жизни и сын Пелагеи Андреевны Василий.

Постояли в молчании у их могил.

Побывали в райцентре Пуховичи: заручились согласием исполкома на установление в Поречье памятника — в память о спасении еврейских детей. Мысль о нем Фрида и Майя вынашивали годами и годами откладывали на него деньги.

Памятник был установлен в 2000 году. Первый памятник в Европе и, пожалуй, в мире праведникам — спасителям евреев.

Ни один белорусский чиновник, даже из области, на его открытие не приехал. Не сочли событие заслуживающим их внимания. Зато приехал из Минска тогдашний посол Германии Хорст Винкельман, что делает честь представленному им государству.

А как ценит подобные подвиги государство, именуемое теперь Республикой Беларусь? А никак. Будто это не его герои, не на белорусской земле совершено то, что служит примером всему человечеству. В День Победы или другие праздники этих людей, когда они еще были живы, не приглашали в президиумы торжественных собраний, не называли их имен в докладах и речах. За их подвиг — никаких государственных наград, никаких льгот, никакой прибавки к пенсии. Они не считались участниками войны, будто в то страшное время не имели никакого отношения к антифашистскому Сопротивлению. О них — ничего в белорусских учебниках истории. А в Институте истории Академии наук? Зашел однажды туда, пообщался с учеными мужами. Важность темы они не оспаривали, но услышал стандартное: "руки не дошли".

Руки? А может быть, притупленная совесть не дошла? Ведь перед ней — барьер: коль не поступило указаний "сверху", то нечего!.. Государственная идеология в нынешней Беларуси самодеятельности не терпит. Неровен час, могут и "на ковер" вызвать. И как уже нередко бывало в советские годы, в ход может пойти испытанное: "Нечего выпячивать. Будет команда — вот тогда..."

Но подвиг потому и называется подвигом, что никаким идеологическим командам не подвластен. В истории Холокоста совершенное жителями белорусской деревни Поречье в 1943-м — один из ярчайших примеров милосердия и отваги. Нравственный свет этого коллективного подвига — на все времена.

**Михаил НОРДШТЕЙН.**

ПОМНЮ...

# Еще раз о спичках...

Когда-то, еще до войны, когда я учился в начальных классах, нам часто на уроках учительница рассказывала о том, как бедно жили люди в Западной Белоруссии. От нас граница с Польшей была в трех километрах. Так вот она рассказывала, что там люди спичку разделяют на две части. И что собирают обмылки. А я своим детским умом думал: это что же, ходят по улицам и собирают, а кто-то разбрасывает?

В то время и наши спички были значительно толще, и в коробок входило 25 штук, на коробке даже стояла цифра 25. Были еще и спички "Малютка". Коробок был поменьше, и количество их было тоже меньше, но древко спички было красного цвета, а головка — зеленого. А еще были так называемые "экспортные" — в бумажных пакетиках. Эти спички зажигались от придавливания или трения о любой предмет — хоть о подошву сапога или о свои зубы — сам не раз видел. Но они были опасны. Случалось, что спички вспыхивали, когда человек прилег где-то отдохнуть и придавил их в кармане.

Когда страной стал править Н.С.Хрущев, то он сказал, что на спички тратится много древесины — надо экономить. Вот тогда и стали спички делать намного тоньше. Такие они и теперь — в такой же коробок входит до 40 штук. Тогда шутили: на спичках экономим, а на водке пропиваем.

Наш сосед в 1939 году служил в Красной Армии водителем грузовой машины. Так вот он рассказывал, что когда готовились идти освобождать Западную Белоруссию, то политрук ему приказал ехать на склад и загрузиться галетами. Сказал, что там люди голодают — будем раздавать им галеты. И вот настал этот час. Когда пересекли границу и оказались в первой попавшейся на пути деревне, то увидели: по всей длине улицы стояли столы, а на столах окорока, домашние колбасы, сыры, масло и все то, что вырабатывали сами. Вот так люди встречали Красную Армию — своих освободителей. Посмотрел политрук и говорит: "Поезжай, отдай какой-нибудь бабусе — пусть кабана кормит". Поехал. Подъехал к одному двору, увидел бабку и говорю: "Возьмите все это себе, будете свиней кормить". А бабуся посмотрела и говорит: "Ой, не, сынку, можа, ты дзе скраў?" И пришлось заехать в лес и выбросить. Вот так они голодали.

**С уважением —**

**Евгений КОРОБКО.**

*д.Могильно Узденского района.*

ВОСТРЫ РАКУРС

# Спыніць варожую прапаганду Масквы!

Некалі дэмакратычная грамадскасць Беларусі абуралася тым, як прамываюць людзям мазгі розныя азаронкі, зімоўскія, казіяткі, новікавы, міхальчанкі і ім падобныя. Але калі параўноўваць узровень іх тэлекілерства з інфармацыйнай вайной, якую вось ужо каторы месяц вядуць на многіх каналах расійскія тэлемонстры, то нашы ідэалагічныя служкі і блізка побач з імі не стаялі. Маскоўскія салаўёвы — гэта самыя што ні ёсць тэрарысты. У іх руках зброя больш небяспечная, чым тая, якую маюць сепаратысты Данбаса і Луганшчыны. Яны дзейнічаюць па гебельсаўскім прынцыпе: чым большая хлусня, тым больш ёй вераць.

Увесь цывілізаваны свет пратэстуе супраць пуцінскай агрэсіі ва Украіне, а яны, салаўёвы, талдычуць, што ніякіх расійскіх ваенных на Данбасе і Луганшчыне няма. Загінуўшых пскоўскіх, кастрамскіх дэсантнікаў хаваюць у магілах пад нумарамі, а на экранах маскоўскіх тэлеканалаў штовечар распальваецца кастрышча шавіністычнага патрыятызму. Глядзі, каб заўтра-паслязаўтра "зялёныя чалавечкі" з георгіеўскімі стужкамі не з'явіліся ў Гомелі, Віцебску, Магілёве...

Калі глядзець і слухаць тых жа салаўёвых, то можна з глузду з'ехаць: яны настойліва ўбіваюць у галовы тэлегледачоў і радыёслухачоў, што ўкраінцы, нашы паўднёвыя суседзі, — сярэднявечныя пачвары. Маўляў, і дзяржавы ў іх няма, і культура іх "не тая", адным словам, "бандэраўцы" і "фашысты". А значыць, яны не маюць права на месца пад сонцам.

Так нахабна, па-хамску могуць абражаць цудоўны ўкраінскі народ сапраўдныя пачвары, якіх сёння на пракрамлёўскіх каналах хоць гаць гаці. Яны бессаромна пагарджаюць элементарнымі правіламі журналістыкі: даеш пуцінскую карцінку — пакажы і парашэнкаўскую. Ды дзе там! Кіеўская пазіцыя, меркаванні, аргументы, факты другога боку — пад жорсткай забаронай. Маскоўскіх тэле- і радыёкілераў не цікавіць, як адлюстроўваюць тыя ці іншыя падзеі, звязаныя з вайной, украінскія і еўрапейскія аналітыкі. Яны б'юць у адну кропку: расійскія інтарэсы там, дзе гучыць рускае слова. Такім чынам вядзецца нахабнае пракрамлёўскае замбіраванне мільёнаў людзей як у самой Расіі, так і ў тых краінах, дзе пакуль свабодна транслююцца маскоўскія каналы. Лічу, што правільна паступілі ўрады тых дзяржаў, дзе варожай крамлёўскай прапагандзе паставілі заслону.

Я недзе вычытаў: сённяшняе расійскае тэлебачанне — гэта неканвенцыйная зброя вайны. Нельга мірыцца з тым, што яна адкрыта выкарыстоўваецца і на тэрыторыі Беларусі.

Лукашэнкаўскія ідэолагі змагаюцца з апазіцыяй, міфічнай "пятай калонай", не зважаючы на тую небяспеку, якую нясуць нашай краіне розныя маскоўскія салаўёвы. Баюся, схопяцца, ды позна будзе.

Даўно пара і нам перакрыць кісларод варожай прапагандзе з Масквы!

**Аляксей МАКАРЭВІЧ, беларус.**

